№ 5(29)
Сакавік 1999

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"




Аляксей ШЫДЛОЎСКІ па выхадзе з турмы

# Час руйнуе турэмныя муры

## Палітвязень Аляксей Шыдлоўскі — на волі!

Любая дыктатура, нават самая магутная, бязьсільная перад часам. Ні адзін дыктатар ня можа спыніць ягоны бег... Мінулі і паўтары гады зьняволеньня Аляксея Шыдлоўскага. Асуджаны за антыпрэзідэнцкія надпісы (графіці) на сьценах свайго роднага гораду, ён прайшоў праз усе выпрабаваньні, на якія такія багатыя беларускія турмы. Сёньня Аляксей — на волі...

Тэрмін зьняволеньня заканчваўся 25 лютага. Да гэтага дня рыхтаваліся сябры і паплечнікі Аляксея з Маладога Фронту. Мерхавалася наладзіць урачыстую сустрэчу палітвязьня па выхадзе з турэмнай

(Працяг на стар.2-3)

## Хроніка

*27 лютага* ў Мінску адбылася антыфашысцкая акцыя — мітынг і шэсьце пад назовам «Раздавім фашысцкую гадзіну!». Арганізатарамі акцыі былі Беларускі Хельсінкскі Камітэт, Праваабарончы Цэнтр «Вясна-96» і грамадзянская ініцыятыва «Хартыя-97». У антыфашысцкай акцыі таксама прынялі ўдзел яўрэйская, татарская і ўкраінская супольнасьці — усяго каля 3 тысяч чалавек. Пасьля мітынгу пачаліся затрыманьні, якія праводзілі асобы ў цывільным. Былі затрыманыя сябры БНФ «Адраджэньне» Васіль Пашковіч і Уладзімір Руснак, непаўнагадовыя Аляксандр Юрын з сябрам, якія несьлі плакат «Хартыя-97». Заяўляльнікі акцыі — В.Костка (Беларускі Хельсінкскі Камітэт), А.Бяляцкі (Праваабарончы Цэнтр «Вясна-96»), З.Бандарэнка («Хартыя-97») атрымалі позвы ў суд.

*1 сакавіка* ў ГАМе (Гарадзкім адзьдзяленьні міліцыі) Савецкага раёну г. Мінску (на Камароўскім рынку) адбыліся суды над заяўляльнікамі антыфашысцкай акцыі «Раздавім фашысцкую гадзіну» Алесем Бяляцкім, Зьміцерам Бандарэнкам і Валерыям Косткам. Алесь Бяляцкі быў асуджаны па арт. 167. ч.2 КаАП (парушэньне парадку правядзеньня шэсьцяў, мітынгаў і дэманстрацыяў) на 10 сутак адміністратыўнага арышту. Суды над З.Бандарэнкам і В.Косткам былі перанесеныя на 4 сакавіка. У гэты ж дзень судзьдзя Цэнтральнага суда г. Мінску А.Барысёнак перанёс разгляд справаў удзельнікаў акцыі сяброў БНФ «Адраджэньне» Уладзіміра Руснака і Васіля Пашковіча, затрыманых 27 лютага, на 10 сакавіка.

(Працяг на стар.6-7)

# Фашызм не павінен прайсьці

***27 лютага ў Мінску адбылася антыфашысцкая акцыя — мітынг і шэсьце пад лозунгам Другой сусьветнай вайны: «Раздавім фашысцкую гадзіну!».***




Апошнім часам у Беларусі актывізавала сваю дзейнасьць неафашысцкая арганізацыя «Русское национальное Единство» (РНЕ). Гэта стала адною з галоўных прычынаў правядзеньня акцыі «Раздавім фашысцкую гадзіну» арганізатарамі якой сталі Беларускі Хельсінкскі Камітэт, Праваабарончы Цэнтр «Вясна-96» і грамадзянская ініцыятыва «Хартыя-97». Прымалі ўдзел у акцыі яўрэйская, татарская і ўкраінская супольнасьці.

Мінскі гарвыканкам дазволіў правядзеньне акцыі, але пры ўмове, што ўдзельнікі яе будуць рухацца выключна па тратуарах, не выходзячы на праезную частку вуліцы. У антыфашысцкай акцыі прынялі ўдзел каля 3 тысяч чалавек. Тратуары былі засыпаныя сьнегам, з дахаў дамоў зьвісалі вялізныя ледзяшы, якія стваралі рэальную пагрозу для жыцьця людзей. Таму дэманстранты рушылі па адной паласе праезнай часткі праспекту імя Францішка Скарыны, не замінаючы пры гэтым руху грамадзкага транспарту.

На плошчы Перамогі ўдзельнікі акцыі ўсклалі вянок да абеліску, які ўстаноўлены ў гонар перамогі над фашызмам.

Падчас шэсьця з міліцэйскай машыны, якая суправаджала дэманстрантаў, гучалі папярэджаньні ў адрас заяўляльнікаў акцыі — В.Косткі (БХК), А.Бяляцкага (ПЦ «Вясна-96»), З.Бандарэнкі («Хартыя-97») — іх абвінавачвалі ў парушэньні правілаў правядзеньня масавых мерапрыемстваў. Урэшце ім уручылі позвы: зьявіцца ў гэты ж дзень а 15 гадзіне ў Савецкі РАУС для складаньня пратаколу.

Шэсьце завяршылася на плошчы Парыжскай Камуны, дзе адбыўся мітынг. Пасьля мітынгу пачаліся затрыманьні, якія праводзілі асобы ў цывільным. Былі затрыманыя сябры БНФ «Адраджэньне» Васіль Пашковіч і Уладзімір Руснак, а таксама непаўнагадовыя Аляксандр Юрын з сябрам, якія несьлі плакат «Хартыя-97». Некалькі ўдзельнікаў мітынгу схаваліся ад перасьледу асобаў у цывільным у памяшканьні місіі АБСЕ у Мінску. Сябра Беларускага Хельсінкскага Камітэту, аднаго з заяўляльнікаў акцыі Валерыя Костку супрацоўнікі міліцыі адшукалі на міжнароднай канферэнцыі «Судовая абарона правоў чалавека», якую праводзіў Беларускі Хельсінкскі Камітэт. Там жа, на вачах праваабаронцаў з розных краінаў, быў складзены пратакол на Валерыя Костку. Алеся Бяляцкага, старшыню Праваабарончага Цэнтру «Вясна-96», затрымалі ўвечары 27 лютага, калі ён вяртаўся з Управы БНФ «Адраджэньне». Асобы ў цывільным даставілі яго ў РАУС Савецкага раёну г.Мінска, дзе быў складзены пратакол і выпісаная новая позва на 1 сакавіка.

Дарэчы, асобам у цывільным было нялёгка затрымліваць удзельнікаў акцыі — людзі не давалі гэта рабіць. Каля станцыі метро «Няміга», да прыкладу, удалося «адбіць» Цімафея Дранчука. У Праваабарон-

# Час руйнуе турэмныя муры

*(Пачатак на стар. 1)*

брамы. Аднак і ўлады пасвойму рыхтаваліся да сканчэньня тэрміну зьняволеньня Аляксея. За два дні да 25 лютага А.Шыдлоўскі быў гвалтоўна амніставаны. Чаму гвалтоўна? Ды таму, што Аляксей афіцыйна адмовіўся ад амністыі, стаў першым зьняволеным мінскай калоніі ўзмоцненага рэжыму, які сьвядома і добраахвотна зрабіў гэта.

23 лютага А. Шыдлоўскі нечакана-негадана быў фактычна сілаю вытураны-выштурханы з калоніі. Робячы гэта, улады перасьледавалі адразу некалькі мэтаў. Папершае, гэткім чынам яны паказвалі свой "гуманізм"; па-другое, хацелі пазьбегнуць санкцыянавага пікетусустрэчы Аляксея каля сьценаў турмы; па-трэцяе, (і гэты ход самы езуіцкі), вызваліўшы А. Шыдлоўскага за два дні да сканчэньня тэрміну, яны, паводле беларускіх законаў, пазбавілі яго права на амністыю на бліжэйшыя дзесяць гадоў. Маўляў, хто яго ведае, як складзецца твой лёс, хлопец, але ты ведай, што караючы меч вісіць над тваёю галавой...

Была і яшчэ адная "хітрасьць", на якую пайшлі ўлады. Каб пазьбегнуць "стыхійнага мітынгу" (бо сябры Аляксея чакалі яго каля брамы), турэмшчыкі пэўны час трымалі Аляксея на холадзе, пад сьнегам у двары калоніі, пільнуючы момант, калі хлопцы адыйшліся папалуднаваць...

У турме Аляксей сустрэў свае дзевятнаццаць і дваццаць год, памужнеў, набыў новых сяброў, з якімі яму нават не далі разьвітацца па-чалавечы. Распавядаючы пра ўмовы ўтрыманьня зьняволеных і парадкі, што пануюць у беларускіх турмах, Аляксей падкрэсьліваў, што нягледзячы на маральныя, псіхалагічныя і фізічныя пакуты, якія давялося яму перажыць,



А. ШЫДЛОЎСКІ і В. ЛАЎКОВІЧ, асуджаныя за "графіці", на прэс-канферэнцыі.

чы Цэнтр «Вясна-96» зьвярнулася Галіна Рылькова, якая засьведчыла: «27.02. 99 г. у 13.30 у скверы Я.Купалы пасьля мітынгу ў мяне на вачах двое маладых мужчынаў у цывільным пачалі цягнуць дзьвюх сталых жанчын у машыну за тое, што ў адной з іх з торбы былі відаць бел-чырвона-белыя сьцягі. Нас было чатыры жанчыны, мы паднялі крык, падыйшлі яшчэ дзьве жанчыны, мы пачалі раздымаць рукі гэтых мужчынаў. Яны селі ў машыны і па сьцежках скверу паехалі да тэатру Оперы і балету».

І іншыя шматлікія спробы захопу людзей няўдала скончыліся для асобаў у цывільным. Так, на аўтобусным прыпынку спрабавалі затрымаць М.Мікалайчанку, М.Белянкевіча і А.Цімафеева. Асобы ў цывільным накінуліся на Белянкевіча і хацелі зацягнуць яго ў «Жыгулі» МІА 90-47, але людзям на прыпынку ўдалося адстаяць удзельнікаў акцыі.

Суды над удзельнікамі антыфашысцкай акцыі «Раздавім фашысцкую гадзіну» пачаліся 1 сакавіка. У ГАМе (Гарадзкім адзьдзяленьні міліцыі) Савецкага раёну (на Камароўскім рынку) адбыліся суды над заяўляльнікамі акцыі Алесем Бяляцкім, Зьміцерам Бандарэнкам і Валерыям Косткам. Алесь Бяляцкі быў асуджаны на 10 сутак адміністратыўнага арышту. Суды над З.Бандарэнкам і В.Косткам былі перанесеныя на 4 сакавіка. Разгляд справаў сяброў БНФ «Адраджэньне» Уладзіміра Руснака і Васіля Пашковіча судзьдзя Цэнтральнага суда г. Мінску А.Барысёнак перанёс на 10 сакавіка.

**Наш кар.**

---

нягледзячы на частыя "выхаваўчыя" размовы, якія практыкавалі з ім, ягоная сістэма каштоўнасьцяў не зьмянілася, як і планы на жыцьцё. Ён мяркуе ў бліжэйшы час знайсьці працу, пажадана журналісцкую (Аляксей вучыўся на факультэце журналістыкі дзяржуніверсітэту), і працягваць вучобу...

За мінулыя паўтары гады зьнешне нібыта нічога ў Беларусі не зьмянілася. Але непадуладны час наблізіў ня толькі дзень вызваленьня Аляксея з вязьніцы. Заканчваецца і тэрмін легітымнасьці дыктатара, які "за зьнявагу гонару і годнасьці" пасадзіў Аляксея за краты. Час, які ня толькі руйнуе турэмныя муры, але і сьцірае з твару зямлі дыктатуры і дыктатараў...

**Андрэй НАЛІВА**

# Мэта — запалохаць

## *Рэжым Лукашэнкі з канца лютага распачаў "паляваньне" на Цэнтральную Выбарчую камісію па выбарах прэзідэнта, што была створаная легітымным Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь 13-га скліканьня*

25 лютага пятнаццаць сяброў Цэнтральнай Выбарчай камісіі (ЦВК) разам з яе старшынёй Віктарам Ганчаром больш за пяць гадзінаў правялі ў пастарунку міліцыі пасьля таго, як былі арыштаваныя з дапамогай атраду АМАПу ў кавярні «Калізей», што ў мінскім Доме афіцэраў. Сябры Цэнтрвыбаркаму сабраліся ў абедзенны час у кавярні (бо іншых мажлівасьцяў не было), каб правесьці пасяджэньне і вырашыць важныя пытаньні па падрыхтоўцы да выбараў. У пастарунку ўсім сябрам Цэнтрвыбаркама, акрамя дэпутата гарсавета Волчака, уручылі позвы ў суд як парушальнікам адміністратыўнага артыкула 167.1 (парушэньне парадку арганізацыі вулічных шэсьцяў, мітынгаў, дэманстрацый і сходаў).

Такім чынам, у панядзелак 1 сакавіка вясна на Беларусі пачалася традыцыйна: з «разборак» з апазіцыяй праз судовыя ўстановы. «Абслугоўваць» ЦВК выпала судзьдзям Ленінскага раённага суда г. Мінску Алене Царашковай і Валянціне Зянькевіч. У першай палове дня, аднак, працы паважаным спадарыням было няшмат: у прызначаны час у суд зьявіўся толькі адзін сябра ЦВК — жыхар Берасьця Генадзь Самойленка. Па ягонай просьбе да справы былі далучаныя пастанова Вярхоўнага Савету РБ 13-га скліканьня ад 10 студзеня (аб правядзеньні 16 траўня прэзідэнцкіх выбараў) і зварот сп. Самойленкі ў Хельсінкскі Камітэт, АБСЕ ды Еўрапарламент. У гэтым звароце разам з апісаньнем падзеяў у кавярні «Калізей» указваліся таксама і прозьвішчы амапаўскіх начальнікаў, якія «камандавалі захопам» Цэнтрвыбаркаму (палкоўнік Баранаў, маёр Барсукоў ды іншыя). Нягледзячы на заяву сп.Самойленкі, што ён кіраваўся выключна легітымнымі законамі і Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, і тлумачэньне адваката Веры Страмкоўскай, што артыкул 167.1 Кодэксу аб адміністратыўных правапарушэньнях рэгламентуе толькі вулічныя акцыі, судзьдзя А.Царашкова палічыла справядлівым пакараць Г.Самойленку штрафам у памеры 30 мільёнаў рублёў (100 даляраў ЗША). Цікава, што судзьдзя так і не адшукала сьведкаў, якіх прасіў дапытаць на працэсе абвінавачваемы, у тым ліку палкоўніка Баранава. Сьведчыў на судзе толькі адзін чалавек – старшы сяржант 6-га ўзводу мінскага АМАПу Аляксандр Амельяновіч, які ня раз блытаўся, адказваючы на пытаньні адваката В.Страмкоўскай. «Доказы віны» грунтаваліся таксама на відэаматэрыялах, на прагляд якіх судзьдзёй Царашковай не былі дапушчаныя прадстаўнікі СМІ. І невыпадкова. Паводле словаў Г.Самойленкі, на міліцэйскім відэазапісе ясна бачна, як выкручваюць рукі Віктару Ганчару, а голас за кадрам пагражае надзець яму кайданкі...

Якраз у тыя хвіліны, калі заканчваўся разгляд гэтай справы, праз некалькі сталічных кварталаў ад Ленінскага суда падзеі разгортваліся больш драматычна. У раёне плошчы Перамогі міліцыя затрымала Віктара Ганчара. Старшыню ЦВК міліцыянты, разьбіўшы шкло, выцягнулі з машыны і даставілі ў пастарунак, дзе і адбыўся суд. Пры гэтым першы паверх пастарунку быў ачэплены амапаўцамі, якія не прапускалі ў будынак журналістаў. Па рацыі пасту піў загад прапусьціць у залу суда толькі вядомага журналіста і праваабаронцу Валерыя Шчукіна, аднак ён меў толькі кароткую гутарку з судзьдзёй В.Зянькковіч, якая паведаміла пра асуджэньне В.Ганчара на 10 сутак арышту.

Тым часам у аўтобусе, які курсіраваў па Мінску, прайшло чарговае пасяджэньне Цэнтрвыбаркаму, на якім быў зацьверджаны склад ініцыятыўных групаў двух кандыдатаў у прэзідэнты — М.Чыгіра і З.Пазьняка. (Пры затрыманьні В.Ганчара на шляху на гэтае пасяджэньне з ягонай машыны былі скрадзеныя некаторыя дакументы, што тычыліся балатаваньня З.Пазьняка. На шчасьце, ініцыятыўная група мела копіі дакументаў).

Пасьля выкананьня сваіх абавязкаў сябры Цэнтрвыбаркаму зьявіліся ў Ленінскі суд, дзе ўжо быў асуджаны В. Ганчар. Ніхто з іх не прызнаў сваёй віны ў «парушэньні парадку правядзеньня сходаў»; усе заявілі, што дзейнічалі на падставе Канстытуцыі. Сьведкаў на працэсах на гэты раз не было. Прысуды Царашковай і Зянькевіч можна было б пісаць пад капірку, калі б ня дробныя адрозьненьні, якія, аднак, не зьмянялі сутнасьць справы. Пяцьцю суткамі арышту былі пакараныя сябры ЦВК Анатоль Гурыновіч, Барыс Гюнтэр і Сяргей Абадоўскі (апошні адразу ж, у зале суда, абвясьціў галадоўку). Яшчэ некалькі чалавек атрымалі ў якасьці пакараньня грашовыя штрафы: па 30 мільёнаў – А.Дзіргінчус, М.Пахабаў, прэс-сакратар ЦВК А. Коктыш; па 20 мільёнаў рублёў – А.Сідарэнка і Л.Закурдаеў; а І. Навумчык, як пенсіянер, — «усяго» 15 мільёнаў рублёў. У дачыненьні да трох жанчын-«парушальніц» Л.Сазанавец, В.Лагун і В.Кляновай судзьдзі абмежаваліся абвяшчэньнем папярэджаньняў.

Відавочна, што лукашэнкаўскі рэжым апынуўся сёньня перад дылемаю: не заўважаць дзейнасьць апазіцыі па арганізацыі выбараў Лукашэнка ня можа; распачаць жа рэпрэсіі «на поўную моц» супраць ЦВК — значыць даць падставу для, як мінімум, вялікага розгаласу па ўсім сьвеце... Ужо і зараз, толькі пачаўшы паляваньне на людзей, што рыхтуюць законныя выбары, дыктатар нямала зрабіў для папулярызацыі ЦВК сярод насельніцтва. Як бачна са зьменаў інфармацыйнай палітыкі Беларускага тэлебачаньня (банальнае замоўчваньне апошніх падзеяў), у бліжэйшым будучым рэжым, хутчэй за ўсё, будзе імкнуцца чыніць перашкоды дэмакратам цішком і без каментароў...

**Яна ЖДАНОВІЧ**

# А судзьдзі — хто?

Амаль месяц прайшоў з таго дня, як судзьдзя Ленінскага суда г. Бабруйску Юры Сушкоў у грамадзкай прыёмнай «Вясны-96» распавядаў прадстаўнікам незалежнай прэсы пра прычыны, што вымусілі яго зьдзейсьніць неардынарны ўчынак — звольніцца з працы і папрасіць палітычнага прытулку на Захадзе. Цяпер Юры Сушкоў у Германіі. Калі я праслухоўвала дыктафонны запіс, зроблены ў дзень ад'езду, то заўважыла тое, на што не зьвярнула ўвагі падчас прэс-канферэнцыі — вялікае хваляваньне ў голасе, у словах, у інтанацыі Юрыя Сушкова. У той дзень вырашаўся ягоны лёс, але пра гэта ня ведаў ніхто з прысутных журналістаў. Так, тады яшчэ ніхто ня ведаў, што адразу пасьля прэс-канферэнцыі судзьдзя Юры Сушкоў пакіне Беларусь...

Тое, што Юры Сушкоў папрасіў палітычнага прытулку на Захадзе — беспрэцэдэнтная зьява. Беларускія судзьдзі, здавалася б, заўсёды былі лаяльнымі ў адносінах да рэжыму. Але сьпецслужбы падобных сітуацый (з выездам судзьдзяў на Захад) не выключалі... Ведалі, што можа такое здарыцца, бо ёсьць на гэта прычыны. І найперш — бяспраўнае становішча судзьдзяў. Калі Юры Сушкоў пачаў афармляць замежны пашпарт, то ў адзьдзеле кадраў абласнога ўпраўленьня юстыцыі, куды ён зьвярнуўся па выпіску з працоўнай кніжкі, яму патлумачылі, што судзьдзі — асобы «нявыязныя». «Тэлефаную ў свой адзьдзел кадраў, — распавядае Юры Сушкоў. — Там загадчыцай працуе Баярчук Марыя Аркадзьеўна. Кажу ёй: «Мне патрэбная выпіска з працоўнай кніжкі». А яна адразу ж: «А мы судзьдзям замежныя пашпарты не выдаем! Я вам не падпішу заяву». Чаму? Якія таямніцы судзьдзі могуць выдаць за мяжой? Распавесьці пра тое, што ў Беларусі суд не зьяўляецца самастойнай галіной улады, а судзьдзі бяспраўныя да такой ступені, што за апраўдальныя рашэньні іх пазбаўляюць грашовых прэміяў?..»

У выніку Сушкоў атрымаў замежны пашпарт толькі дзякуючы сваім добрым сябрам.

30 студзеня Юры Сушкоў напісаў начальніку ўпраўленьня юстыцыі Магілёўскага аблвыканкаму заяву, у якой прасіў звольніць яго з пасады судзьдзі з прычыны «маральных і палітычных перакананьняў». Пасьля гэтага ён два тыдні практычна знаходзіўся на нелегальным становішчы: зьмяніў мес-


Юры СУШКОЎ

ца жыхарства, зьнішчыў усе свае паперы, усе дакументы. На пытаньні журналістаў, як з ім можна будзе зьвязацца, Юры Сушкоў адказваў: «Я ня ведаю, дзе я буду знаходзіцца. Можа ў Мінску, а можа і ня ў Мінску. Я ня ведаю...»

Юры Сушкоў ня быў спакойны за свой лёс, ён разумеў, што ў любую хвіліну ягоныя планы могуць быць сарваныя.

> ***...Крымінальная справа па забойству Мікалуцкага, справа Паула Шарамета, справа Васіля Старавойтава і інш. — гэта «заказныя справы», вынікамі якіх цікавіцца вышэйшая асоба дзяржавы...***

На прэс-канферэнцыі перад ад'ездам у Германію судзьдзя Юры Сушкоў засьведчыў тое, што сьпецслужбы ў Беларусі цяпер, як і ў савецкія часы, маюць вялікі ўплыў на судовую ўладу. Менавіта пад ціскам з боку сьпецслужбаў Юры Сушкоў быў вымушаны вынесьці несправядлівы прысуд замест апраўдальнага рашэньня. Фактычна невінаватыя людзі апынуліся за кратамі адзін на два з паловай гады, другі — на чатыры з паловай гады.

«На гэтым ганебным працэсе, — гаворыць Юры Сушкоў, — КДБ спрабавала навязаць мне здымкі тэлебачаньня. Мне цудам удалося пазьбегнуць тэлекамераў. На экране тэлевізара ўсе выглядала б пампезна. Гэта было б страшна — вынесьці несправядлівы прысуд, а пасьля яшчэ па тэлебачаньні бачыць увесь гэты сьпектакль. Я хачу адзначыць, што на ўсіх разглядах справаў, у сьледстве па якіх удзельнічаюць «чэкісты», прысутнічае тэлебачаньне, якое фіксуе ход працэсу, вынясеньне прысуду. Такім чынам яны могуць аказваць кампраментуючае ўзьдзеяньне на судзьдзю: маўляў, мы цябе ўсё роўна паказалі, ты «засьвяціўся» са сваім прысудам, таму ты павінен з намі быць да канца. Гэта адзін з метадаў іх дзейнасьці. Да прыкладу, справа супрацоўнікаў бабруйскай мытні Патарыкіна і Дразда цягнулася вельмі доўга. Гэта быў сапраўдны сьпектакль. Паколькі ў мяне ўзьніклі сумненьні ў гэтай справе, то я вырашыў дапрасіць як мага большую колькасьць сьведак, хацеў пераканацца для сябе асабіста. «Чэкісты» адразу папярэджвалі: «Юры Уладзіміравіч, мы любое пытаньне можам вырашыць, любога чалавека з Рэспублікі Беларусь, хай гэта будзе нават міністр, можам даставіць да вас... На працягу дзьвюхтрох гадзінаў ён будзе ў Бабруйску, і можна правесьці допыт любога чалавека — тут ніякіх праблемаў ня будзе». У такіх заявах таксама ёсьць момант аказаньня ціску на судзьдзю — дэманстрацыя ўсемагутнасьці сьпецслужбаў у Рэспубліцы Беларусь. Гэткім чынам да мяне прывезьлі намесьніка старшыні Дзяржаўнага мытнага камітэту. Прывезьлі яго раніцай гадзінаў каля дзесяці. Гэта значыць, што яго паднялі ў Мінску зусім рана і нейкім чынам даставілі ў Бабруйск. Яго ўжо дапытвалі ў Мінску. Але ўсе допыты адбываліся ў будынку КДБ. Я нават ня ведаю, як іх ацэньваць... Гэта асобнае пытаньне, асобная тэма... Па паказаньнях намесьніка старшыні Дзяржаўнага мытнага камітэту ў судзе я таксама бачыў, што на гэтага чалавека быў аказаны ціск. Гэта адчувалася па інтанацыях голасу, па ягонай міміцы і г.д. Я паўтаруся: там, дзе ў працэсе ўдзельнічае КДБ, справы так проста бясьследна не заканчваюцца. Там спрэс аказваецца ціск, там усё імкнуцца арганізаваць так, каб людзі селі "па поўнай праграме". Гэтая традыцыя зыходзіць з савецкіх часоў, калі КДБ меў абсалютную ўладу, калі яго баяліся. Я лічу, што гэта адзін з яскравых сродкаў запалохваньня ўсіх людзей. Каб людзі паглядзелі па тэлевізары, якія выносяць прысуды там, дзе КДБ расьсьледуе справу. Гэтым самым нібыта падказваюць: «Бойцеся нас!».

Справа Патарыкіна і Дразда хаця і была гаспадарчай, але была ў пэўным сэнсе «заказной», а значыць — і палітычнай. Справа ня толькі ў маёй асобе, у тым, што на мяне аказвалі ціск. Гэты ціск аказваўся планамерна ў ходзе сьледства на ўсіх супрацоўнікаў мытні, на кіраўніцтва мытнага камітэту. Старшыня раённага суда Мікалай Семянюк мне сказаў дакладна, адкуль зыходзіла гэтая справа — з Савету Бясьпекі прэзідэнта. Гэта была дакладная інфармацыя, таму што яму ад Шэймана тэлефанавалі і сказалі, што «зьверху» задаволеныя прысудам.

Усе падобныя справы: крымінальная справа па забойству Мікалуцкага,

> **Артыкул падрыхтаваны паводле матэрыялаў прэс-канферэнцыі, якая адбылася ў офісе Праваабронча Цэнтру «Вясна-96» 18 лютага 1999 году.**

*Працяг. Пачатак у мінулым (4(28)) нумары "ПВ"*

справа Паўла Шарамета, справа Васіля Старавойтава і інш. — «заказныя справы», вынікамі якіх цікавіцца вышэйшая асоба дзяржавы. Калі гаварыць пра справу Мікалуцкага, то зразумела, што паводле той інфармацыі, якую людзі атрымлівалі са сродкаў масавай інфармацыі, зрабіць нейкую выснову цяжка. Для гэтага трэба ведаць: чаму адбылося забойства. Я крыху ведаю тых людзей, якія займаліся папярэднім сьледствам па справе Мікалуцкага. Гэта сьледчы абласной пракуратуры Аляксандр Радкевіч. Узначальваў, памойму, групу Аляксандр Матулькоў з абласной магілёўскай пракуратуры. Гэта два чалавекі з той групы, якіх я ведаў.

> ***...Кожная форма дзяржаўнага кіраваньня мае свае прынцыпы і законы, якія падтрымліваюць і захоўваюць яе. Для таталітарнага рэжыму галоўны прынцып захаваньня — страх...***

Усе памятаюць, як Лукашэнка быў на пахаваньні і абяцаў у дзесяцідзённы тэрмін усіх бандытаў і ворагаў народа вывесьці на чыстую ваду. Тут можна правесьці гістарычную паралель з забойствам С.Кірава ў 30-я гады. У народзе кажуць: «бі сваіх, каб чужыя баяліся», гэта можна перафразаваць так: «бі сваіх, каб свае і баяліся». Прынамсі, такую версію зусім нельга выключаць... Хаця мне цяжка меркаваць аб ходзе сьледства, аб яго аб'ектыўнасьці. Невядома, якія там наогул былі сабраныя доказы. Адзін чалавек, якога падазравалі, павесіўся — загадкавая сьмерць. Гэта быў чалавек, які ня быў схільны да суіцыду. Зразумела, чаму былы міністр Лявонаў, калі патрапіў у гэты млын правасудзьдзя па-беларуску, з-за кратаў паведаміў, што любую інфармацыю пра ягонае самагубства трэба лічыць ілжывай...

Ход сьледства па справе Мікалуцкага нідзе не асьвятляўся. Таму і суд будзе закрытым. Але што такое закрыты суд у нашай краіне? Яго можна зусім не праводзіць... Па гэтай справе пацярпелым быў прызнаны сам Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка. Пра гэта была вынесеная сьпецыяльная пастанова. Чаму так атрымалася? Вы памятаеце, як Лукашэнка казаў пра тое, што забойства Мікалуцкага зьявілася падрыхтоўкай замаху на прэзідэнта. Адзін са сьледчых у прыватнай размове сказаў, што ў яго захавалася копія пастановы аб прызнаньні Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі пацярпелым, і што ён хоча захаваць яе «для гісторыі». Гэта дакладная інфармацыя. Каб прызнаць прэзідэнта пацярпелым, было дастаткова, каб нехта з тых , хто праходзіў па гэтай справе, у ходзе сьледства прызнаўся, што такі замах сапраўды рыхтаваўся».

Справу Мікалуцкага вярнуў на дарасьсьледваньне Вярхоўны Суд. Але за «раскрыцьцё» гэтай нераскрытай справы супрацоўнікі магілёўскай абласной пракуратуры А.Радкевіч і А.Матулькоў, магілёўскі пракурор Драздоў атрымалі хто кватэру, хто павышэньне па службе.

Кожная форма дзяржаўнага кіраваньня мае свае прынцыпы і законы, якія падтрымліваюць і захоўваюць яе. Для таталітарнага рэжыму галоўны прынцып захаваньня — страх.

Свабода грамадзянаў у значнай ступені залежыць ад якасьці законаў, якія могуць найбольш рэзка парушыць недатыкальнасьць чалавека.

Юры Сушкоў сьцьвярджае, што ў Рэспубліцы Беларусь парушаюцца асноўныя нормы права. «У нашай дзяржаве яшчэ з савецкіх часоў ужываецца такая практыка: дастаткова паказаньняў пацярпелага, каб чалавека можна было пакараць, — гаворыць Юры Сушкоў, — дастакова нават прызнаньня самога абвінавачанага, каб яго асудзіць — раз прызнае віну, значыць — вінаваты. Гэтая практыка заганная. Віну чалавека трэба даказваць аб'ектыўна. А ў нас амаль усе справы такія: сьледства заканчваецца тым, што альбо чалавек сам прызнае сваю віну, і гэтая віна больш нічым не пацьверджаная, альбо пацярпелы ўказвае на яго і кажа, што ён вінаваты. Большых доказаў для сьледства ня трэба. Гэтага дастаткова, каб чалавека пазбавіць волі, пакараць. Падобную практыку баяцца ламаць, таму што тады трэба адмяняць усе папярэднія прысуды. А за адмену прысуду — у нас пагражае сапраўдны тэрор. Нават калі ты судзьдзя і выносіш апраўдальнае рашэньне, то пачынаюцца прафесійныя рэпрэсіі — пазбаўленьне прэміяў і да т. п. Але гэта дробязі жыцьця ў параўнаньні з тым брудам, які на цябе выліваюць міліцыя і пракуратура.

> ***...Чым большая колькасьць народу прыцягваецца да любога віду адказнасьці, тым больш людзі баяцца. З такім народам лягчэй змагацца — вазьмі любога, і на яго можна аказваць ціск, і ён будзе маўчаць, і ніколі нідзе ня будзе апанентам для ўладаў. Такія людзі баяцца сістэмы, таму што сістэма іх ломіць вельмі моцна....***

Яшчэ адзін прыклад з маёй практыкі. Разглядаў я матэрыял крымінальнай справы — было прадстаўленьне Ленінскага РАУС г.Бабруйску на замену адтэрміноўкі на выкананьне прысуду аб пазбаўленьні волі. Малады хлопец быў асуджаны па абвінавачваньні ў выкарыстаньні і захоўваньні наркотыкаў для асабістага ўжываньня, бяз мэты збыту. Гэта ня цяжкае злачынства, тым болей ён упершыню прыцягваўся да адказнасьці. Яму далі два гады з адтэрміноўкай выкананьня прысуду на два гады. У канцы гэтага тэрміну, ён раптам прыцягваецца да адміністратыўнай адказнасьці. Пачынаецца судовы працэс. Я выклікаю падсуднага, пытаюся: «За што вы былі затрыманыя?». А ён адказвае: «Вы ведаеце, да мяне супрацоўнікі міліцыі прыязджалі дамоў, забіралі мяне, прывозілі ў міліцыю і казалі: «Прызнавайся у тым і тым...». А я нічога не рабіў. У чым мне прызнавацца?» Міліцыянеры складалі пратаколы і вялі яго да адміністратыўнага судзьдзі, той даў яму адміністратыўны арышт і яго накіроўвалі ў КПЗ. За што яго караюць? За тое, што ёсьць пратаколы... Я ў яго спытаў, ці зьвяртаўся ён у пракуратуру. Ён адказаў: «Мяне папярэдзілі, што ня дай Бог ты кудынебудзь зьвернешся... Мы пасьля так табе "зьвернемся", што ты ня выйдзеш адсюль...»

Калі шчыра, то я паверыў гэтаму хлопцу. Матэрыялы па ягонай справе я накіраваў у пракуратуру для праверкі. Пасьля гэтага да мяне прыйшла пракурор і сказала: «Юры Уладзіміравіч, давайце зьменім фармулёўку. А то атрымліваецца, што калі правядзем праверку, дык шмат каго давядзецца пакараць за незаконныя затрыманьні і г.д».

Чым большая колькасьць народу прыцягваецца да любога віду адказнасьці, тым больш людзі баяцца. З такім народам лягчэй змагацца — вазьмі любога, і на яго можна аказваць ціск, і ён будзе маўчаць, і ніколі нідзе ня будзе апанентам для ўладаў. Такія людзі баяцца сістэмы, таму што сістэма іх ломіць вельмі моцна.

У нашай дзяржаве дастаткова не спадабацца міліцыянеру — і на цябе тут жа складуць пратакол і прыцягнуць да адміністратыўнай адказнасьці па арт. 156 КаАП РБ — дробнае хуліганства. Як правіла, у рапартах пішуць наступнае: «Перашкаджаў прахожым, выражаўся нецэнзурнай лаянкай, меў неахайны зьнешні выгляд, размахваў рукамі, знаходзіўся ў п'яным выглядзе і г. д.». Сьведкі — міліцыянеры. Ніхто ніякіх доказаў зьбіраць ня будзе. Вось так у нас прыцягваюць да адміністратыўнай адказнасьці».

Пасьля вынясеньня апраўдальных рашэньняў Юры Сушкоў меў праблемы са сваім кіраўніцтвам. Судзьдзя абласнога суда Рыгор Качалаў папярэджваў яго, казаў, што самога судзьдзю можна прыцягнуць да крымінальнай адказнасьці. «Калі я захачу, я цябе зьнішчу», — гэта словы Р.Качалава. Размова адбывалася ў кабінеце Ю.Сушкова пры сьведках. Фактычна, гэта была пагроза.

Свае словы пра прафесійны тэрор Юры Сушкоў падмацоўвае прыкладамі. У Бабруйску за апраўдальнае рашэньне ў адносінах да дырэктара «Фандока» Таранава звольнілі судзьдзю Сяргея Жабчанку.

«Змагацца з сістэмай, выносіць прынцыповыя рашэньні, практычна немагчыма», — такую выснову зрабіў Юры Сушкоў.

На прэс-канферэнцыі, якая адбылася ў офісе Праваабарончага Цэнтру «Вясна-96», Юры Сушкоў цытаваў словы былога міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі з фільма «Звычайны прэзідэнт» пра тое, што ў Беларусі «больш слабых зламваюць, больш моцных забіваюць». Юры Сушкоў абраў для сябе іншы варыянт — эміграцыю.

**Паліна СЬЦЕПАНЕНКА**

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар. 1)

*1 сакавіка* ў Мінску быў арыштаваны старшыня Цэнтральнай Выбарчай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Віктар Ганчар. Яго гвалтам выцягнулі з уласнай машыны (пры гэтым разьбілі ў машыне шкло) і перасадзілі ў «Волгу» чорнага колеру, на якой даставілі ў ГАМ Ленінскага раёну г.Мінску. Віктар Ганчар быў асуджаны на 10 сутак адміністратыўнага арышту. Варта адзначыць, што ў лютым 1999 году КДБ Беларусі папярэдзіў Віктара Ганчара. У папярэджаньні было сказана: «Дзейнасьць Ганчара і членаў Цэнтральнай Выбарчай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якую ён узначальвае супярэчыць дзейснаму заканадаўству, правакуе дэстабілізацыю грамадзка-палітычнага становішча ў рэспубліцы і можа прывесьці да зьдзяйсьненьня злачынства, прадугледжанага часткай 1 арт. 61-1 («змова з мэтай захопу дзяржаўнай улады») КК РБ. У сувязі з гэтым Ганчару В.І. вынесенае афіцыйнае папярэджаньне і патлумачана, што падобная дзейнасьць можа прывесьці да злачынства і пацягнуць за сабой крымінальную адказнасьць».

*1 сакавіка* адбыўся суд над членамі Цэнтральнага Выбарчага камітэту па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Зранку 1 сакавіка ў суд, які адбываўся ў памяшканьні ГАМу Ленінскага р-ну зьявіўся толькі адзін сябра ЦВК сп. Генадзь Самойленка. Ён атрымаў адміністратыўнае пакараньне ў выглядзе штрафу 30 млн. рублёў (100 даляраў ЗША). Яшчэ 5 членам Цэнтрвыбаркаму інкрымінавалі артыкул 167.1 ч.1 КаАП — парушэньне парадку правядзеньня мітынгаў, шэсьцяў, дэманстрацыяў і пікетаваньня. Судзьдзёй Валянцінай Зянькевіч былі асуджаныя:

1. *Сідарэнка* Валеры Іванавіч (рабочы) — штраф 20 млн. рублёў.
2. *Кляновая* Валянціна Вітальеўна (маці 16 дзяцей, 6 з іх — непаўнагадовыя) — папярэджаньне;
3. *Закурдаеў* Леанід Рыгоравіч (1926 г. нараджэньня, ветэран Другой сусьветнай вайны, пенсіянер-інвалід) — 20 млн. рублёў.
4. *Гурыновіч* Анатоль Васільевіч — 5 сутак адміністратыўнага арышту.
5. *Лагун* Валянціна Віктараўна (супрацоўніца Акадэміі навук) — папярэджаньне.

Крыху пазьней у судзе Ленінскага раёну г.Мінску пачалі судзіць іншых членаў Цэнтрвыбаркаму. На гэты працэс пускалі прадстаўнікоў грамадзкасьці. Пачатак працэсу быў нават зьняты расійскімі тэлекампаніямі, але потым судзьдзя Алена Церашкова папрасіла журналістаў пакінуць залу паседжаньняў. Алена Церашкова вынесла наступныя рашэньні:

1. *Абадоўскі* Сяргей Віктаравіч (юрысконсульт Свабоднага Прафсаюзу Беларускага) — 5 сутак адміністратыўнага арышту (С. Абадоўскі адмовіўся адказваць на пытаньні судзьдзі і даваць тлумачэньні, у знак пратэсту супраць незаконнага затрыманьня і прыцягненьня да адміністратыўнай адказнасьці. Пасьля вынясеньня рашэньня судзьдзі ён абвясьціў у зале суда галадоўку);
2. *Навумчык* Іосіф Адамавіч (г.Віцебск) — штраф 15 млн. рублёў;
3. *Сазанавец* Лілія Вацлаваўна (г. Ліда, маці 2 непаўнагадовых дзяцей) — папярэджаньне;
4. *Пахабаў* Мікалай Андрэевіч (рабочы з г.Барысава) — штраф 30 млн. рублёў;
5. *Дзілінчус* Альгінас Юзэфавіч (кінарэжысёр г. Гродна) — штраф 30 млн. рублёў;
6. *Коктыш* Аляксандр (журналіст) — штраф 30 млн. рублёў;
7. *Гюнтэр* Барыс Давідавіч (сакратар ЦВК) — 5 сутак адміністратыўнага арышту.

*1 сакавіка* старшыня легітымнага Центрвыбаркаму Віктар Ганчар абвясьціў сухую галадоўку. 3-га сакавіка Зінаідзе Ганчар дазволілі спатканьне з мужам, якое працягвалася некалькі хвілінаў. Старшыня ЦВК паведаміў, што цьвёрда намераны трымаць галадоўку, пакуль ня вызваляць усіх асуджаных членаў ЦВК. Каля сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніка ўвесь час дзяжурыла «хуткая дапамога». Апрача таго, у сьпецпрыёмніку знаходзіліся прадстаўнікі сьпецслужбаў, якія сачылі за тым, каб супрацоўнікі сьпецразьмеркавальніку не дапусьцілі ніякіх кантактаў зьняволеных сяброў Цэнтрвыбаркаму між сабой і грамадзкасьцю.

*2 сакавіка* ў памяшканьні Магілёўскай абласной арганізацыі БНФ «Адраджэньне» праходзіў сход абласной арганізацыі Фронту. Прыкладна ў 19.30 правядзеньне сходу было спыненае нарадам міліцыі і АМАПу начале з маёрам міліцыі У.Чумаковым і маёрам міліцыі У.Ермаковым. Супрацоўнікі міліцыі, ня маючы адпаведных санкцый, абшукалі памяшканьне і канфіскавалі шэраг матэрыялаў, якія «утрымліваюць заклікі да гвалтоўнага зьвяржэньня існуючай улады», аб чым складзены адпаведны акт. У якасьці самага важкага рэчывага доказу фігуравала «Дэкларацыя» лідэра БНФ Зянона Пазьняка, напісаная два гады таму. Міліцыяй быў складзены сьпіс асобаў, якія прысутнічалі на сходзе.

*2 сакавіка* супрацоўнікі Гродзенскай пракуратуры, міліцыі і КДБ правялі вобыскі ў рэдакцыі мясцовай незалежнай газеты «Пагоня», офісе грамадзкай арганізацыі «Ратуша» і лялечным тэатры. Шукалі інфармацыйныя матэрыялы, зьвязаныя з правядзеньнем выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. У рэдакцыі «Пагоні» былі канфіскаваныя рэдакцыйная пошта і архіўныя дакументы. У гродзенскім аб'яднаньні «Ратуша» супрацоўнікі пракуратуры дзейнічалі паводле крымінальнай справы аб зьняваze гонару і годнасьці прэзідэнта А.Лукашэнкі, якая была заведзеная на падставе выхаду зборніка карыкатураў Алеся Суворава «У пагоню!». У выніку вобыску было канфіскавана некалькі асобнікаў зборніка карыкатураў, брашура старшыні Вярхоўнага Савету Сямёна Шарэцкага «Трагедыя Беларусі», а таксама пратакол пасяджэньня камісій па выбарах прэзідэнта Беларусі.

*3 сакавіка* а 9 гадзіне ў судзе Цэнтральнага раёну г.Магілёва адбыўся суд над старшынёй абласной арганізацыі БНФ Анатолем Фёдаравым. Старшыня суда Цэнтральнага р-ну г. Магілёва Плотнікава прыняла апраўдальнае рашэньне: прызнала Анатоля Фёдарава невінаватым.

*3 сакавіка* пракуратура г.Баранавічы нарэшце адрэагавала на заяву старшыні Баранавіцкай гарадской Рады БНФ «Адраджэньне» М. Северцава. У яго заяве на імя пракурора г.Баранавічы было сказана: «У г.Баранавічы дзейнічае незарэгістраваная ў Рэспубліцы Беларусь арганізацыя «Русское Национальное Единство» (РНЕ). Гэтая замежная арганізацыя распаўсюджвае шавіністычныя ідэі, заклікае да гвалтоўных дзеяньняў, якія супярэчаць Канстытуцыі РБ. Праз свае ўлёткі і газеты «Русский порядок», «Русский вестник» РНЕ распальвае міжнацыянальную варожасьць на тэрыторыі РБ. Гэтая замежная арганізацыя адкрыта праводзіць свае сходкі ў г.Баранавічы, імкнецца ўцягнуць ў свае шэрагі і падпарадкаваць сабе моладзь, каб пад знакам відазьмененай свастыкі германскага фашызму ў ваенізаванай форме і чорных кашулях выкарыстаць «в битве за установление русского мирового порядка». Выходзячы з



вышэйсказанага, і з таго, што мы — грамадзяне незалежнай Рэспублікі Беларусь, патрабуем прыняць неадкладныя меры па спыненьні дзейнасьці на тэрыторыі нашага гораду шавіністычна-імперскай, з фашысцкім ухілам, арганізацыі замежнай краіны. Аб прынятых мерах просім праінфармаваць нас». Баранавіцкая пракуратура ў адказ прыняла наступныя меры: выклікалі старшыню мясцовай Рады БНФ М.Северцава і сакратара Рады Г.Багдановіч і загадалі прадставіць прозьвішчы і хатнія адрасы членаў «Русского Национального Единства»(РНЕ). Толькі пры гэтых умовах пракуратура зацікавіцца дзейнасьцю фашыстаў.

*3 сакавіка* член Цэнтральнай Выбарчай камісіі Сяргей Абадоўскі, які адбываў адміністратыўны арышт у мінскім сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку, быў дастаўлены ў бальніцу «хуткай дапамогі» з дыягназам «востры гіпертанічны крыз» — вынік галадоўкі, якую ў знак пратэсту супраць незаконнага арышту С.Абадоўскі абвясьціў у зале суда. У бальніцы С.Абадоўскаму аказалі тэрміновую медыцынскую дапамогу, пасьля чаго адпусьцілі дадому. С.Абадоўскаму заставалася знаходзіцца за кратамі два з паловай дні. Гэты тэрмін ён павінен адбыць, калі стан здароўя палепшыцца.

*3 сакавіка* ў рэанімацыйнае адзьдзяленьне мінскага вайсковага шпіталю з дыягназам «фізічнае і псіхічнае зьнясіленьне» трапіла былая старшыня Нацбанку Тамара Віньнікава. Яна знаходзіцца ў сьпецыяльнай палаце пад аховай. За дзень перад гэтым яна зьвярнулася ў Беларускі Хельсінкскі камітэт па дапамогу. Былая старшыня Нацбанку сьцьвярджае, што далейшае знаходжаньне пад хатнім арыштам пагражае яе жыцьцю. У 1998 годзе ў Віньнікавай было выяўленае анкалагічнае захворваньне, яе можа выратаваць толькі хірургічнае ўмяшальніцтва. Патрэбную аперацыю можна зрабіць толькі ў 8-ым клінічным шпіталі, але там «няма ўмоваў для разьмяшчэньня аховы». У выніку Т.Віньнікавай ужо другі год адмаўляюць у лячэньні. У студзені 1999 году адвакат Людміла Ульяшына зьвярталася са скаргай на ўтрыманьне Віньнікавай пад хатнім арыштам у пракуратуру Беларусі і Фрунзенскі раённы суд г.Мінску. З пракуратуры паведамілі, што скарга ня можа быць задаволенай.

*4 сакавіка* суд Савецкага раёну г.Мінску перанёс разгляд справы Валерыя Косткі (БХК) на 16 сакавіка.

*4 сакавіка* ў Заводзкім раёне г.Мінску былі затрыманыя Корзун Валянціна і Івановіч Аляксандр — сябры ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў за вылучэньне З. Пазьняка кандыдатам у прэзідэнты РБ. Супрацоўнікі міліцыі спрабавалі іх абвінаваціць у «незаконным пранікненьні ў кватэры пад выглядам збору подпісаў». Пры гэтым былі канфіскаваныя падпісныя лісты. 12 сакавіка В.Корзун і А.Івановіч былі выкліканыя ў суд Заводзкага раёну. Ім інкрымінуюць арт. 167.3 КаАП РБ. Судовае пасяджэньне было перанесенае на 15.02.99 г., бо В.Корзун і А.Івановіч заявілі хадайніцтва, што хочуць карыстацца паслугамі адваката.

*У ноч з 5 на 6 сакавіка* дактары гвалтам прымусілі Віктара Ганчара спыніць галадоўку — пачалося прымусовае кармленьне. Сябра ЦВК Анатоль Гурыновіч, які знаходзіўся ў суседняй камеры, чуў, як Віктар Ганчар супраціўляўся дактарам. Галоўнае патрабаваньне Віктара Ганчара — неадкладнае вызваленьне, не было выкананае.

*5 сакавіка* ў судзе Цэнтральнага раёну г.Магілёва быў асуджаны да штрафу ў памеры 1 млн. рублёў сябра Маладога Фронту Андрэй Дзьвігун. Яму інкрымінавалі парушэньне арт. 167.3 КаАП РБ — парушэньне закону аб выбарах. 4-га сакавіка А.Дзьвігун і непаўналетні сябра Маладога Фронту Алесь Палтарацкі былі затрыманыя падчас збору подпісаў за вылучэньне З. Пазьняка кандыдатам у прэзідэнты РБ. Пратакол аб затрыманьні ня быў складзены. Бацькам Палтарацкага, справа якога накіраваная ў камісію па справах непаўнагадовых, не было паведамлена аб затрыманьні сына. 5 сакавіка разам з А.Дзьвігуном быў асуджаны да 3 сутак адміністратыўнага арышту магілёўскі праваабаронца Валадар Цурупанаў, які зьявіўся ў суд, каб абараняць А.Дзьвігуна.

*5 сакавіка* ў Гродна арыштаваныя ўдзельнікі маладзёжнай антыфашысцкай акцыі. На вул. Савецкай моладзь была акружаная АМАПаўцамі з сабакамі. Было затрымана 39 чалавек. Была канфіскаваная літаратура антыфашысцкага зьместу. Пратаколы не былі складзеныя, але былі праведзеныя відэаздымкі. Праз 2 гадзіны большасьць дэманстрантаў была адпушчаная — па іх прыехалі бацькі. Братоў Станіслава і Андрэя Пачобутаў (сяброў Маладога фронту) затрымалі да суда, які павінен адбыцца 9 сакавіка. Станіслаў Пачобут зьбег з-пад варты. Супраць яго брата Андрэя была ўжытая фізічная сіла (АМАПаўцы зьбівалі яго ў камеры).

*5 сакавіка* ў Сьветлагорску 10 членаў гарадской выбарчай камісіі і 10 членаў раённых выбарчых камісій па выбарах прэзідэнта РБ, прызначаных на 16 траўня, на розны час выклікалі на размову да намесьніка пракурору гораду Галавача В.П. Адзін з «запрошаных», З.Маісеенка, паведаміў у ПЦ «Вясна-96»: намесьнік пракурору паінфармаваў іх, што яны парушаюць арт. 81 Канстытуцыі РБ 1996 г. — плануюць захоп улады, а гэтыя дзеяньні цягнуць за сабой крымінальную адказнасьць.

*11 сакавіка* скончыўся 10-ці сутачны тэрмін зьняволеньня старшыні Цэнтрвыбаркаму Віктара Ганчара. Яго павінны былі вызваліць у 14 гадзінаў. У гэты час каля сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку сабраліся прадстаўнікі прэсы, грамадзкасьці, актывісты дэмакратычных партыяў. Але сустэча Віктара Ганчара не адбылася. Высьветлілася, што яшчэ зранку яго вывезьлі ў ізалятар часовага ўтрыманьня на допыт. Пасьля гэтага Віктара Ганчара вывезьлі на Лагойскі тракт і выкінулі з машыны... Стала вядома, што падчас зьняволеньня В.Ганчар падвяргаўся ня толькі прымусоваму кармленьню, але і катаваньням. Людзі ў чорнай вопратцы і масках, якія хавалі іх твары, навязвалі яго кайданкамі да батарэі і зьбівалі, яму заломвалі рукі і ногі назад — рабілі так званую «ластаўку». Пасьля катаваньняў і сухой галадоўкі здароўе В.Ганчара знаходзіцца ў вельмі кепскім стане. У ноч на 12 сакавіка да яго выклікалі «хуткую дапамогу». Дактары раяць Віктару Ганчару на бліжэйшы час устрымацца ад актыўных кантактаў з грамадзкасьцю і прэсай.

*11 сакавіка* супраць старшыні ЦВК Віктара Ганчара заведзеная крымінальная справа па арт. 190 КК РБ (самавольнае прысваеньне званьня альбо ўлады службовай асобы, зьвязанае са зьдзяйсьненьнем на гэтай падставе якіх-небудзь грамадзка небясьпечных дзеяньняў; караецца пазбаўленьнем волі на тэрмін да двух гадоў альбо папраўчымі работамі на той жа тэрмін).

*10 сакавіка* суд над удзельнікамі акцыі «Раздавім фашысцкую гадзіну» Уладзімірам Руснаком і Васілём Пашковічам перанесены на 16 сакавіка.

*11 сакавіка* ў Магілёве пры зборы подпісаў за вылучэньне старшыні БНФ «Адраджэньне» Зянона Пазьняка кандыдатам у прэзідэнты «для праверкі дакументаў» былі затрыманыя нарадам міліцыі сябры Маладога Фронту Дзяніс Башкіраў і Алег Дзьячкоў. Яны былі дастаўленыя ў РАУС Цэнтральнага раёну г. Магілёва, дзе ўтрымліваліся на працягу трох гадзінаў. Пасьля канфіскацыі падпісных лістоў іх адпусьцілі.

*11 сакавіка* члены раённай выбарчай камісіі, якія працуюць настаўнікамі ў школах №1 і №3 г.Глуску (Магілёўскай вобл.), былі выкліканыя да дырэктараў школаў, якія прымусілі іх пісаць тлумачальныя, а таксама адмовіцца ад працы ў камісіях. Настаўнікам пагражалі звальненьнем з працы. Варта адзначыць, што ў невялікіх беларускіх гарадах новую працу па сьпецыяльнасьці знайсьці вельмі цяжка. Старшыня Глускай Рады БНФ «Адраджэньне» Яўген Фалецкі распавёў, што тры гады таму ў Глуску па палітычных матывах быў зв振 зволены з працы Ігар Кірын (бацька 5 дзяцей), які працаваў дырэктарам маладзёжнага цэнтру. Цяпер ён вымушаны працаваць пераплётчыкам за 1 млн .700 тыс. рублёў у месяц (прыкладна 5 даляраў ЗША). Зранку 12 сакавіка члены раённай выбарчай камісіі былі выкліканыя ў гарадзкую пракуратуру.

*11 сакавіка* сябра Сьвіслацкай раённай выбарчай камісіі (Гродзенская вобласьць) Віктар Трашчановіч быў выкліканы на пасяджэньне выканкаму, дзе большасьць прысутных прагаласавала за ліквідацыю яго прыватнага прадпрыемства «Электрапрамень». Фармальнай падставай зьявілася тое, што прадпрыемства працуе са стратамі. Але са словаў В.Трашчановіча падчас існаваньня прадпрыемства ён спраўна плаціў падаткі і прэтэнзіяў з боку падатковай інсьпекцыі ня меў. Пра палітычны падтэкст гэтага рашэньня можа сьведчыць тое, што выканкам 15 хвілінаў вырашаў справу, зьвязаную з прадпрыемствам, і на працягу гадзіны абмяркоўваў палітычную дзейнасьць В.Трашчановіча ў складзе выбарчай камісіі. Акрамя таго, В.Трашчановіч і яшчэ 10 сяброў раённай выбарчай камісіі выклікаліся ў пракуратуру, дзе атрымалі папярэджаньне.

*У сакавіку* прэс-сакратару Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Беларусі Аляксандру Коктышу было вынесенае афіцыйнае папярэджаньне аб недапушчальнасьці незаконных дзеяньняў. А.Коктыш быў выкліканы ў КДБ, дзе яму патлумачылі, што ягоная дзейнасьць можа прывесьці да крымінальнай адказнасьці.

**Інфармацыйны адзьдзел "Вясны-96"**

# Справа №1592

**У выніку афёры дзяўчынка была пазбаўленая спадчыны бацькі. Хто адновіць справядлівасьць...**

У лютым 1999 г. у Праваабарончы Цэнтр «Вясна-96» зьвярнуўся Валяр'ян Іванавіч Кажэўнікаў, які ў сваёй заяве напісаў: «Маёмасьць майго сына пасьля яго сьмерці 11 чэрвеня 1996 году разрабаваная групай асобаў. Па гэтаму факту заведзеная крымінальная справа №1592. У працэсе сьледства высьветлена, што ў крадзяжы прымалі ўдзел людзі з КДБ...»

Што прымусіла гэтага сталага чалавека зрабіць такую заяву? Перадгісторыя звароту В. Кажэўнікава ў ПЦ "Вясна-96" такая. 6 чэрвеня 1996 году — на дарозе Махава-Вейна-Магілёў здарылася аўтаавария: аўтамабіль «Жыгулі», за рулём якога знаходзіўся жыхар Магілёва, уладальнік малога прадпрыемства Вячаслаў Кажэўнікаў, сутыкнуўся з КАМАЗам. Вячаслаў Кажэўнікаў са шматлікім цялеснымі пашкоджаньнямі быў дастаўлены ў бальніцу, дзе памёр праз пяць дзён. Засталася спадчына, якая па закону павінна была быць падзеленая паміж непаўнагадовай дачкой ад першага шлюбу Валерыяй, жонкаю Аленай Кажэўнікавай і бацькамі загінуўшага.

Што ўяўляла з сябе спадчына Вячаслава Кажэўнікава? Гэта была ўласнасьць МП «Экспрэс» — 26 цеплавозных акумулятарных батарэй (кожная важыла каля 500 кг. і каштавала некалькі тысячаў даляраў), 20 з якіх захоўваліся на складзе вагонарамонтнага заводу ў Мінску, а 6 Вячаслаў не пасьпеў перавезьці з г.Вялікія Лукі.

Пра існаваньне гэтай маёмасьці ведала толькі другая жонка Вячаслава — Алена Кажэўнікава. Яна вырашыла адзінаасобна завалодаць спадчынаю мужа і не спынілася на гэтым шляху перад парушэньнем закону. Так узьнікла крымінальная справа №1592.

У даведцы па крымінальнай справе №1592 сказана: «...З намерам завалодаць маёмасьцю МП «Экспрэс» у поўным аб'ёме і пазбавіць іншых спадкаемцаў іх правоў на спадчыну, Кажэўнікава Алена, якая працавала старэйшым інсьпектарам Магілёўскай рэгіянальнай мытні, непасрэдна пасьля сьмерці мужа паведаміла ўсім спадчыньнікам заведама ілжывыя зьвесткі аб тым, што маёмасьці Вячаслава Кажэўнікава, якая можа перайсьці ў спадчыну, няма. У трэцяй дэкадзе 1996 г. А. Кажэўнікава ўцягнула ў злачынную дзейнасьць беспрацоўнага Валерыя Прышывалку, які ведаў пра дзейнасьць Вячаслава Кажэўнікава па набыцьцю акумулятарных батарэяў, а таксама аб існаваньні іншых спадчыньнікаў. У трэцяй дэкадзе ліпеня 1996 году Кажэўнікава А., па папярэдняй змове з Прышывалкам В., парушаючы ўстаноўлены законам парадак атрыманьня ў спадчыну маёмасьці, пры садзейнічаньні маёра УКГБ Рэспублікі Беларусь па Магілёўскай вобласьці Лемцюгова І. і палкоўніка УКГБ


На магіле бацькі

па Магілёўскай вобласьці ў адстаўцы Міхалёва А., у пачатку ліпеня 1996 г. прыбылі на вагонарамонтны завод г.Мінску. Там Кажэўнікава А. прадставілася камерцыйнаму дырэктару Талкачову і яго намесьніку Кастэнку адзінай спадчыньніцай загінуўшага мужа, а таксама ўладальніцай МП «Экспрэс», і прадставіла пасьведчаньне аб сьмерці мужа. (...) Талкачоў і Кастэнка, будучы ўведзенымі Кажэўнікавай А. у зман і спачуваючы ёй з нагоды сьмерці мужа, не праверылі яе дакументы, якія пацьвярджалі права на адзінаасобнае права на спадчыну, і перадалі ёй 20 акумулятарных батарэй агульным коштам 1 млрд. 83 млн. 287 рублёў банка Рэспублікі Беларусь. Працягваючы мэту авалоданьня маёмасьцю МП «Экспрэс», Кажэўнікава па папярэдняй змове з Прышывалкам, з намерам рэалізаваць 20 камплектаў акумулятарных батарэй, якімі яны самавольна завалодалі на Мінскім вагонарамонтным заводзе, сталі ажыцьцяўляць прадпрымальніцкую дзейнасьць без дзяржаўнай рэгістрацыі...»

Каб забраць 6 астатніх батарэй, Кажэўнікава з Прышывалкам паехалі ў Расію ў г. Вялікія Лукі, дзе ім даводзіцца вырабіць фальшывую даверанасьць: падрабляюць подпіс кіраўніка МП «Экспрэс» і галоўнага бухгалтара, а таксама ставяць пячатку. Па гэтым фальшывым дакуменце атрымліваюць батарэі і працягваюць іх рэалізацыю.

22 кастрычніка 1996 г. грошы і тавар арыштоўваюцца для забесьпячэньня зыску падатковых плацяжоў у бюджэт. Зьвернемся зноў да Даведкі па крымінальнай справе №1592, дзе сказана:«11 сакавіка 1997 г. Кажэўнікавай А. і Прышывалку В. прад'яўленае абвінавачваньне па арт. 91-1 КК РБ ( «Крадзёж маёмасьці ў асабліва буйных памерах»: ад 10 да 15 гадоў пазбаўленьня волі), і ў той жа дзень выбраная мера стрыманьня — арышт, санкцыянаваны намесьнікам пракурора Магілёўскай вобласьці А. Башковым.

19 сакавіка 1997 г. пры падаўжэньні тэрміну папярэдняга сьледства ў г.Мінску і ў Генеральнай пракуратуры РБ пракурорам па нагляду за сьледствам у органах МУС Казека Т.Ю. было выказанае пажаданьне аб спыненьні крымінальнай справы і вызваленьні Кажэўнікавай і Прышывалкі з-пад варты. Тэрмін папярэдняга дасьледваньня па справе працягнуты намесьнікам Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь Іваненка П.І. 25 сакавіка 1997 г. у пракуратуру Магілёўскай вобласьці паступіла ўказаньне Іваненкі П.І. аб вызваленьні Кажэўнікавай А. і Прышывалкі В. з-пад варты, а ўзбуджэньне крымінальнай справы №1592 прызнанае незаконным.

Па артыкулу «падробка дакументаў» матэрыялы справы передаюцца ў таварыскі суд на Магілёўскую мытню па месцы працы А.Кажэўнікавай, а таксама па месцы працы (!?) беспрацоўнага Прышывалкі В. Таварыскі суд вынес А.Кажэўнікавай прысуд: «ганьбаваньне» (порицание).

Улічваючы ўдзел у справе прадстаўнікоў сьпецслужбаў, бацька Вячаслава, Валяр'ян Кажэўнікаў, зьвяртаўся ў Савет Бясьпекі РБ і нават атрымаў адказ. У лісьце намесьніка Дзяржаўнага Сакратара Савета Бясьпекі РБ Сяргея Канцавенка, накіраваным Валяр'яну Кажэўнікаву, ёсьць такія радкі:« У ходзе сьледства знайшлі пацьвярджэньне факты злоўжываньня службовым становішчам з боку Лемцюгова І., Міхалёва І. і Тананайка А. Улічваючы, што Лемцюгоў І. і Міхалёў І. звольненыя з органаў КДБ, а ў іх дзеяньнях склад злачынства адсутнічае, намі ўказана кіраўніцтву УКДБ па Магілёўскай вобласьці на недапушчальнасьць падобных праяваў з боку супрацоўнікаў упраўленьня»... Гэты адказ Валяр'ян Кажэўнікаў называе «абсурдным».

Тым часам частка грошай, атрыманых за акумулятарныя батэрэі, зьнікла ў невядомым накірунку. Тое, што засталося, пайшло ў падатковую інсьпекцыю за ўплату былых пазыкаў МП «Экспрэс» і за незаконныя аперацыі з продажам акумулятарных батарэй. З Інсьпекцыі Дзяржаўнага Падатковага Камітэту РБ па Кастрычніцкім р-не г.Магілёва Валер'яну Кажэўнікаву адказалі: «Спадчыньнікам загінуўшага заснавальніка МП «Экспрэс», г.зн. непаўнагадовай дачцы і бацькам Кажэўнікава, пераплаты грашовых сродкаў у бюджэце ня маецца. Таму, што па стану на 1.02.99 ёсьць яшчэ нескасаваная запазычанасьць перад бюджэтам ў суме 28,5 млн. руб.».

Валяр'ян Кажэўнікаў працягвае прыязджаць з Магілёва ў Мінск з заявамі на імя Генеральнага Пракурора Рэспублікі Беларусь, у якіх піша: «...Абрабаваная сірата. Тэрміну даўнасьці зьдзяйсьненьне дзеяньняў супраць дзяцей ня мае, таму я патрабую: у будынку Генеральнай пракуратуры ў маёй прысутнасьці праверыць абгрунтаванасьць спыненьня крымінальнай справы №1592".

**Мікола КАЧАН**

Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96".
Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў.
Адрас рэдакцыі: 220007 Менск, а/с 88. E-mail:rights@v96.open.by Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.
Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.

*У нумары скарыстаныя фотаздымкі У. Сапагова і Ю. Дзядзінкіна, а таксама з архіву Цэнтру "Вясна-96"*